Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Непрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 8. Вільня, Субота, 12-га сьнежня 1925 г. Год I.



## Наш скарб неад'емны.

Калі—пасьля вядомае крывавае трагедыі ў польскай гімназіі ім. Лелевэля — у Вільню прыехаў пан міністар асьветы, Станіслаў Грабскі, — ён на нарадзе з вучыцялямі польскіх школ сказаў векапомныя словы, найлепей характэрызуючыя стан і духовае аблічча польскае моладзі. Галава міністэрства асьветы заявіў бадай даслоўна гэтак: Польскі народ зьдзейсьніў ужо свой найвялікшы ідэал—здабыў незалежнасьць, дык цяпер ніякія іншыя ідэалы для моладзі непатрэбны! У адраджонай Польшчы моладзь павінна мець адно імкненьне: *зрабіць кар'еру*, і ў гэтым кірунку і мусіць вясьці яе школа.....

Адным словам: тое, на што жаліцца ў адзін голас уся польская прэса—бяз розьніцы кірункаў (ад абшарніцка-манархічнага „Słowa“ да камуністычных ці „камунізуючых“ газэт),—іменна адсутнасьць ідэалаў у польскай моладзі,—гэта зьяўляецца асновай узгадаваньня вучняў польскіх школ!

„Jakoś to inaczej miało być!“...

— слушна жаліцца адзін з віленскіх польскіх паэтаў, гледзячы на нашу сучасную Вільню,—тую Вільню, якая ад часоў Міцкевіча і філяматаў ажно да мамэнту ўваскрасеньня Польшчы была прыкладам ідэалізму моладзі...

Ніжэй мы падаем выметку з польскага тыднёвіка „Sprawiedliwość“, які займаецца *шуканьнем ідэалу*, за які моладзь у Польшчы *магла-бы* змагацца і складаць свае ахвяры, мо' ахвяры з усяго свайго жыцьця і асабістага шчасьця. Ідэал гэты—сацыяльны і агульналюдзкі. Але нам, беларусам,—асабліва тут, у Заходняй Беларусі, шукаць гэткіх ідэалаў ня прыходзіцца: іх дыктуе само жыцьцё!

Запраўды-ж бо: наш нацыянальны ідэал тут вельмі далёкі ад свайго зьдзейсьненьня, ня толькі ў найдалей сягаючых імкненьнях, але і ў тых дамаганьнях—самых неабходных для нацыянальнага існаваньня, мінімальных,—якія астаюцца ўсё яшчэ толькі ў сфэры няспоўненых лятуценьняў.... Уся польская дзяржаўная палітыка ў скутках сваіх—гэта-ж выразнае запярэчаньне нават неад'емнага нашага права *імкнуцца* да нацыянальнае волі, да адраджэньня і разьвіваньня нашае культуры. І вось у гэтай галіне ў нас яшчэ ёсьць вельмі многа чаго дабівацца і дасягаць....

Але гэта—ня ўсё. Мы не павінны забывацца, што народ беларускі—гэта-ж перад усім народ *працаўнік*, гэта вялізарная сям'я сярмяжных сялян і работнікаў — колішніх выхаджэнцаў з тэй-жа беларускае вёскі. Перад гэтым народам-працаўніком—цяжкі, цярністы шлях да сацыяльнага вызваленьня. І моладзь сваей чуткай душой асабліва востра адчувае неабходнасьць змаганьня за сацыяльнае вызваленьне свайго народу—ў няменшай меры, чым за нацыянальнае.

Але абодва гэтыя ідэалы зьліваюцца ў вадно ў ідэале трэцім—таксама добра зразумелым і глыбока захопліваючым нашу моладзь: у ідэале, які наш вялікі нацыянальны пясьняр — прарок Адраджэньня, Янка Купала, у сваім гымне высказаў двума славамі: *„людзьмі звацца“*. Называцца людзьмі, ведама, ня толькі па іменьню, але па сваей унутранай духовай сутнасьці, па сьвядомасьці сваей чалавечай годнасьці, свайго людзкага Я. І ад самага пачатку сучаснага беларускага адраджэнскага руху гэты іменна ідэал зьяўляўся для нас, як і сёньня зьяўляецца, найсьвятлейшай і найхарашэйшай пуцяводнай зоркай!

Сколькі-ж прастору дзеля дасяганьняў, дзеля ўзьлётаў у недасьціглую вышу для нашае моладзі даюць гэтыя ідэалы?! Сколькі высокіх мамэнтаў дзеля самаахвярнасьці, дзеля складаньня на аўтар вялікае *ідэі* сваіх найдаражэйшых скарбаў—сіл маладых, надзей і спадзяваньняў на асабістае шчасьце?! Сколькі веры ў сьвятасьць сваей справы і яе канчатковую перамогу?!....

І ці-ж мы, беларусы, ня маем права сказаць, што, ня гледзячы на ўвесь трагізм нашага сучаснага палажэньня, мы—багацей за тых, хто, здавалася-бы, зьдзейсьніў усе свае ідэалы—багацей за здаволеную ўсім-чым польскую буржуазную моладзь?

Так, у нас яшчэ ёсьць ідэалы, ёсьць магутныя, неперамožныя імкненьні і ўзьлёты душы да зьдзейсьненьня нашых чароўных сноў-лятуценьняў. І ў гэтым—наш найвялікшы скарб, найвялікшае багацьце ў гэтыя часы ліхалецьця. У гэтым — наша гордасьць, якая дае нам магчымасьць з літасьцяй глядзець на дзяцей „пануючае нацыі“, на цэлае неба ідэалізму *бяднейшых за нас* — парыяў у чужым „раю“!

## „Cud zgody i współpracy“.

(*Адказ на сэнацкае экспозэ пр. Скшыньскага*).

Ніводнага слова не сказаўшы ў сваім соймавым экспозэ аб тэрыторыяльных меншасьцях, займаючых больш паловы дзяржаўнай тэрыторыі Польшчы і прадстаўляючых трацiну ўсіх яе грамадзян,—прэм'ер Скшыньскі „паправіў“ гэтую абмылку—у Сэнаце.

„Прамова п. прэм'ера ў Сэнаце, прапоеная шляхотным практычным ідэалізмам і сардэчнасьцяй у адносінах да меншасьцяў, зрабіла вялікае ўражаньне і—сьмела можна сказаць—зьяўляецца здарэньнем эўрапэйскага значэньня“...

Так гучна піша аб гэтай прамове свайго „пана“—лякай „пана грабего“—„Kurjer Polski“.

„Што-ж сказаў п. прэм'ер у гэтай прамове „шляхотнага“ аб меншасьцях?

Вось яго ўласныя словы:

„Што да ўнутранай палітыкі, а перад усім—да адносінаў да грамадзян іншай нацыянальнасьці, дык склад сучаснага ўраду — яшчэ адна лішняя гарантыя таго лібэралізму, які ўрад будзе правадзіць у жыцьцё ў сваіх пачынаньнях — адносна да ўсіх нацыянальных меншасьцяў, якія будуць трывала стаяць на груньце польскай дзяржаўнасьці“. „Маю надзею, што ў хуткім часе некаторыя меншасьці самі прыдуць да пераканаьня, што „Трактат аб меншасьцях“ ня мае мэтай падкапываць польскую дзяржаўнасьць, і што дасюлешняя іх палітыка палягала на непаразуменьні. „Трактат аб меншасьцях“ ёсьць арганічная частка Вэрсальскага Трактату і запэўняе меншасьцям усе правы, якія запэўняе Польская Канстытуцыя, але гэты самы Трактат пастанавіў таксама, што гэтыя меншасьці будуць, маюць быць і павінны быць добрымі грамадзянамі і стаяць на груньце польскай дзяржаўнасьці“...

Вось і ўсё, што сказаў п. прэм'ер, зьвяртаючыся да тэрыторыяльных меншасьцяў Польшчы, перад усім да беларусаў і ўкраінцаў. Разгледзімжа гэтыя слова „сардэчнасьці і практычнага ідэалізму“, стварыўшыя, паводле афіцыозу п. Скшыньскага,—„факт эўрапэйскай вагі і павагі“...

Перад усім—ані „сардэчнасьці“ ані „ідэалізму“ ў гэтай **яўнай пагрозе**—пазбавіць гэтыя меншасьці—за іх „неляяльнасьць“ усялякіх „загарантаваных“ правоў—мы ня бачым.

Што датычыць „складу ўраду“, які сам ужо быццам гарантуе „лібэралізм“ у адносінах да меншасьцяў, дык перад усім трэба сказаць, што ўсе тыя міністры, якія маюць адношаньне да справаў меншасьцяў, — асталіся непарушна на сваіх мясцох пасьля выхаду Грабскага. Дык перад усім — ніякага новага „факту“ — ані „эўрапэйскай“, ані не-эўрапэйскай вагі п. Скшыньскі ані сваім урадам, ані сваей заявай не зрабіў.—Міністры: ўнутраных спраў, ды асьветы і рэлігіяў—п.п. Рачкевіч і Ст. Грабскі—перайшлі да п. Скшыньскага ад п. Грабскага. Зьмяніўшы-ж п. Радвана на пястоўца-ж Керніка на становішчы няменш важнага для беларускіх і ўкраінскіх сялян міністра „зямельных рэформ“, аддаў справу „парцэляцыі і асадніцтва“ на „Крэсах“ у найбольш можа паліцэйска-асадніцкія рукі, якія толькі ёсьць у Польшчы...

І вось у п. прэм'ера Скшыньскага запраўды хапае—як бы гэта далікатней выразіцца — „практычнага... ідэалізму“ заявіць перад усім сьветам, а перад усім перад 10-мільёнамі беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы, што паны Рачкевіч, Ст. Грабскі і Кернік—аднымі сваімі асобамі „гарантуюць лібэралізм пачынаньняў“ новага ўраду...

А на дзеле...

Мін. Грабскі будзе далей, — але ўжо „лібэральна“—зьнішчажаць нацыянальнае жыцьцё адносна да гэтых народаў, а перад усім школу і культуру меншасьцяў;

мін. Кернік будзе далей, але як „запраўдны лібэрал“, праводзіць „зямельную рэформу“, ці —

засяляць пазнанскімі і кракаўскімі асаднікамі зямлю гэтых меншасьцяў...

мін. Рачкевіч будзе далей рабіць лібэральна-„паліцэйскі рай“ на „Крэсах“, апраўдываючы з урадавай трыбуны ў Сойме ўсялякія „лібэральныя пачынаньні“ паліцыі ў нашым краі, як зрабіў ён гэта толькі-што—у адказ на інтэрпэляцыі беларускіх паслоў...

Вось тая „сардэчнасьць“ і „шчырасьць“, з якой новы міністар зьвярнуўся да беларускага і ўкраінскага грамадзянства ў першай сваей прамове ў Сэнаце...

---

Але гэта далёка ня ўсё, што зьмяшчаюць словы п. прэм'ера. „Трактат аб меншасьцях“, — сказаў п. прэм'ер, — „праўда, загарантаваў меншасьцям, як і Польская Канстытуцыя, усе правы, але гэты Трактат ня можа мець мэтай—падкапывацца пад польскую дзяржаўнасьць“... Дык—калі часам і ў чым гэтыя правы нацыянальных меншасьцяў увойдуць у супярэчнасьць з „польскай дзяржаўнасьцяй“, дык ці можа тады хтось у сьвеце сумлявацца ў тым, што — ня „польская дзяржаўнасьць“ павінна ўступіць ці дастасавацца да загарантаваных Трактатам правоў меншасьцяў, але—наадварот — гэтыя „правы меншасьцяў“, забясьпечаныя Трактатам, павінны нейк пацясьніцца, самаабмежавацца... І найляпей было-б, каб меншасьці самі зрабілі-б гэтую, можа і ня зусім прыемную, але вымаганую „польскай дзяржаўнасьцяй“, опэрацыю „самаабмежаваньня“ ў сваіх правох, загарантаваных ім Трактатам... Бо гэта-ж якраз і значыла-б, што яны „сталі трывала і шчыра на грунт польскай дзяржаўнасьці“...

Дапусьцім на мамэнт, што гэткую філязофію „згоды і супрацоўніцтва“, ураду з меншасьцямі ў Польшчы можна навет прыняць. Але—але-ж трэба было-б перш даведацца,—што такое „польская дзяржаўнасьць“ і—дзе яна спыніцца ў сваіх дамаганьнях „ляяльнасьці“ і „уступак“ з боку меншасьцяў?

Бо, калі пісаўся і падпісываўся Трактат аб меншасьцях у Вэрсалю ў чэрвені 1919 году, дык прадстаўнікі Польшчы кляліся, што „польская дзяржаўнасьць“—якраз тое самае, што напісана ў Трактаце... Бо інакш не падпісалі-б яны абязацельства — уключыць у прышлую польскую Канстытуцыю цалком усе параграфы гэтага Трактату... Бо інакш... і Антанта не дала-б Польшчы меншасьцяў!

Так-жа сама, калі пісалася і зацьвярджалася Устаноўчым Соймам Канстытуцыя 17 сакавіка, і тады—між „правамі меншасьцяў, загарантаванымі Трактатам“ і формулюючай мураваныя падставы польскай дзяржаўнасьці Канстытуцыяй—ня было і не магло існаваць найменшай супярэчнасьці, бо інакш Канстытуцыя ня была-б Канстытуцыяй, ці—асноўным і непахільным Законам Дэмакратычнай Польскай Рэспублікі... Але-ж, насколькі мы памятаем, ня было тады і гэткай вялікай спрэчкі між „польскай дзяржаўнасьцю“ і меншасьцямі ў Польшчы... Ня было і неляяльнасьці з боку беларусаў. Ня было-б, можа, ніякай супярэчнасьці між правамі меншасьцяў і „польскай дзяржаўнасьцю“ і цяпер, калі-б і цяпер „польская дзяржаўнасьць“ і польская Канстытуцыя лічыліся-б лібэральнымі польскімі ўрадамі—аднэй і тэй самай рэчай... Тады-б, можа, і меншасьцям было, ну, скажам з поўнай шчырасьці,—калі ня зусім лёгка, дык бясспрэчна шмат лягчэй „трывала стаяць на груньце гэтай польскай дзяржаўнасьці“, адлажыўшы на як найдалей сваю ўласную.

Але—хай мастацкі тлумач усялякіх трактатаў сам парадзіць нам, меншасьцям, што нам рабіць, калі гэтае, быццам мураванае загарантаванае Канстытуцыяй і... Трактатам разуменьне „польскай дзяржаўнасьці“ з ходам часу, у сувязі з рознымі пэрсанальнымі і іншымі зьменамі ў Польшчы і... наваколе Польшчы—патроху зьмянілася да таго, што цяпер „польская дзяржаўнасьць“ і Польская Канстытуцыя—разглядаюцца „miarodajnymi“ ў Польшчы панамі, як дзьве зусім розныя рэчы? Што тады меншасьцям парадзіць рабіць „практычны ідэалізм“ п. Скшыньскага, калі яго-ж калегі—п. п. Рачкевіч, Грабскі, Кернік і іншыя міністры—нарушаюць самі гэтую Канстытуцыю, нарушаюць загарантаваныя Трактатам правы меншасьцяў, — ці, інакш, але зусім точна і дакладна кажучы,— самі яны, дый яшчэ і разам з сваім шэфам, самім п. Скшыньскім—самі „не стаяць трывала на груньце запраўднай польскай дзяржаўнасьці“?..

---

З нашага шчырага і, маем надзею, з усіх бакоў абаснаванага пагляду на гэтае пытаньне адказ можа быць толькі адзін.

Перад усім тая „шляхотнасьць“ і той „практычны ідэалізм“, якія так пакуль-што беспадстаўна прыпісывае п. прэм'еру яго найміт-хваліцель з „Kur. Polsk.“, скажуць грамадзянам—меншасьцям Польшчы—перад усім у сваіх уласных інтэрэсах, а пасьля і ў інтэрэсах самай польскай дзяржавы—моцна і трывала стаяць на груньце такой польскай дзяржаўнасьці, як яе разумелі тады, калі пісалі і падпісывалі Трактат 1919 г. і Канстытуцыю 1921 г... Яны скажуць меншасьцям ня йсьці ні на якія „ўступкі“ і „самаабмежаваньне“ ў сваіх загарантаваных правох—на карысьць тэй **новай** „польскай дзяржаўнасьці“, якую даўно ўжо заводзяць і ахоўваюць у Польшчы „лібэралы“ Рачкевіч, Кернік і Грабскі...

Тое-ж пачуцьцё самапашаны і пашаны да польскага народу, наадварот, загадаець меншасьцям вясьці рашучую барацьбу проці гэнай новай—фальшывай—„польскай дзяржаўнасьці“... Вясьці гэтую барацьбу, астаючыся на груньце **запраўднай** дзяржаўнасьці, таптанай рознымі „лібэральнымі“ ботамі ў Польшчы...

І вось меншасьці ў Польшчы праз вельмі даўгі час, у меру магчымасьці, рабілі гэта...

П. Скшыньскі ня можа не памятаць, што меншасьці ў Польшчы рабілі нават шмат больш,—рабілі нават тое, чаго, праўду кажучы, не дазваляла ім запраўдная пашана да сябе, але на што папіхала іх ня раз — наіўнае даверые да... „практычнага ідэалізму“ польскай лявіцы... Ня можа п. Скшыньскі не памятаць гэтага, бо ён сам быў сябрам габінэту ген. Сікорскага ў 1922—1923 г. г., якому тады далі мала матываваны крэдыт усе меншасьці Польшчы... Можа п. Скшыньскі прыпомніць сабе, хто-ж тады зламаў умову аб „згодзе і супрацоўніцтве“: меншасьці, ці Сікорскі?!.

Дык вось, меншасьці могуць з спакойным сумленьнем заявіць, што гэты шлях шануючай сябе і контр-агента „згоды і супрацоўніцтва“ яны прайшлі да канца — да самых рубяжоў, выпрабаваўшы ў **граніцах Польшчы** ўсё, што было ім тут „ахвяравана“ ці—накідана...

І калі цяпер гэтыя меншасьці цалком страцілі веру ў тое, што Польская Канстытуцыя будзе калі-небудзь ізноў называцца для іх польскай дзяржаўнасьцяй, дык у гэтым ужо ня іх віна, а віна тых „лібэралаў“, якія з Канстытуцыі зрабілі нейкую „птушку шчасьця“, доўна бо... 18 сакавіка—адляцеўшую з Польшчы.

П. Скшыньскі ізноў падыймае той спор, які йшоў у беларускай і наагул у меншасьцёвай прэсе ў 1922 г.—спор аб тым, „хто павінен пачаць“: ці меншасьці—сьпярша стацца ляяльнымі да ўлады і да „польскай дзяржаўнасьці“, ці — наадварот—сьпярша павінны „стануць трывала і ляяльна—на грунт польскай дзяржаўнасьці“ паны, маючыя ўладу ў Польшчы...

Захоплены сваім „лібэралізмам“ і „ідэалізмам“, п. Скшыньскі не разумее, што гэты спор ня мае, ня можа мець ніякага сэнсу ў запраўды дэмакратычным краю, дзе запраўды, як кажа § 1 Польскай Канстытуцыі, „Вярхоўная ўлада належыць да ўсяго народу“, дзе ўсе грамадзяне—роўныя ў правох...

Калі п. Скшыньскі захопліваецца ляяльнасьцю амэрыканскіх жыдоў, дык хай жа-ж ён зразумее, што там кожны здольны жыд можа быць міністрам—пабач з здольнымі іншымі грамадзянамі.

А ў Польшчы—хай сам п. Скшыньскі скажа: ці-ж мог бы найздольнейшы жыд стацца міністрам—нават у „сардэчным“ да жыдоў габінэце п. Скшыньскага.

---

Прэм. Скшыньскі канчае свае сэнацкае экспозэ заявай, што ён „верыць у цуд згоды і супрацоўніцтва ў супольным высілку ўсіх сілаў Польшчы—з увагі на грозную і паважную сітуацыю“....

Але, зьбіраючы да „згоды і супрацоўніцтва“ ўсе сілы ў Польшчы, п. Скшыньскі—„не сабраў“, ня гледзячы на неахвотныя запросіны, нават такіх ляяльных прадстаўнікоў магутнай сілы польскага сялянства, як „Вызваленьне“... І—**зусім нават не запрасіў да гэтага супрацоўніцтва ані да згоды соймавых прадстаўнікаў нацыянальных меншасьцяў у Польшчы...**

Ня тое, каб меншасьці скардзіліся на п. Скшыньскага за гэта, або—пайшлі-б на запросіны супрацоўнічаць у „згодзе“ з яго „лібэраламі“, як зрабілі гэта паны пэпээсы..

Не, ня гэта мы хочам сказаць. Мы толькі павінны адказаць п. Скшыньскаму, што ўсім гэтым паступаньнем ён сам адказаў найляпей на ўсе свае гучныя, але, як бачым, зусім пустыя, калі ня горш, фразы: ён сам выкінуў меншасьці з ліку тых „сілаў“, якія ён зьбіраў і сабраў для ратаваньня польскае дзяржавы ў сучасны грозны мамэнт...

Дык—хай ён і верыць толькі ў той „цуд“, які здолее стварыць бяз іх...

# Аб чым пішуць.

## Аб моладзі.

Часта беларуская прэса наракае на беларускую моладзь, якая ў сучасных ненармальных варунках прост дзічэе па вёсках. Але беларуская моладзь прынамся мае перад сабой нейкія ідэалы, нейкія дасяганьні, якімі, калі ня ўся, дык прынамся ў лепшай частцы сваей захопліваецца. Горш выглядае справа ўзгадаваньня польскае моладзі, якая ў часох няволі мела высокія вызвольныя ідэалы, але, здабыўшы волю для сваей бацькаўшчыны, ня мае цяпер да чаго імкнуцца: узгадаваная на традыцыях панска-буржуазных і нацыяналістычных, яна ня можа захапіцца высокімі ідэаламі барацьбы за вызваленьне свайго-ж народу і мадзее, думаючы адно толькі аб жыцьцёвых выгодах і ўпехах. Сумныя выпадкі ў віленскіх гімназіях найлепш даводзяць гэтага.

Патроху зварачае на гэта ўвагу і польская прэса. Так тыднёвік „Sprawiedliwość“ піша:

> Моладзь, здэмаралізаваная ў часе сусьветнае вайны і сучаснымі гаспадарчымі адносінамі, змагаецца йшчэ сяньня з голадам, які ня раз падбівае яе да ўчынкаў крымінальных, супярэчных з карным кодэксам.
>
> Думка аб будучыні — гэта, паводле яе пагляду, ня мае аж гэтулькі вартасьці, каб ёй захоплівацца!
>
> Аднак-жа, мы мусім рупіцца аб нашу моладзь, якая мае быць нашай будучыняй. Мусім узьвясьці яе на тую належную дарогу, па якой яна павінна йсьці, каб дайсьці да мэты, якая для яе абавязкова: **да сьвятла і волі!**
>
> Наш абавязак — асьвядоміць нашых братоў і нашых сёстраў, згуртаваць іх у адну сям'ю і дапамагчы ёй. Зьдзейсьніць гэта будзе магчыма толькі тады, калі будзем дзяржацца пры адным штандары: **штандары—людзкасьці, справядлівасьці і дзеяньня.**

Пекныя прынцыпы. Іх мусім і мы несьці нашай моладзі!..

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### У Сойме.

Паседжаньне Сойму, меўшае адбыцца ў сераду, быццам-то з прычыны хаўтуроў пісьменьніка Рэймонта, адложана на чацьвер. Запраўдная-ж прычына адкладу—нязгодлівасьць сяброў ураду ў справе экспозэ міністра Здзеховскага, што, здаецца, зрабіла дрэннае ўражаньне на біржу, бо доляр адразу падняўся з 9 злот. раніцай да 10 ўдзень.

### Бурнае паседжаньне Рады Міністраў.

8-га сьнежня адбылося паседжаньне Рады Мін.-страў, на якім разглядалася крытычнае сучаснае палажэньне скарбу—у зьвязку з новым спадкам злотага, і меры для выхаду з яго.

На гэтым паседжаньні пачуўшыя ўжо добра небясьпеку для сваіх уплываў сярод работнікаў пэпээсаўскія міністры паставілі рад дамаганьняў, ад выкананьня якіх узалежнілі сваю бытнасьць у складзе ўраду.

Ратуючы сваю „папулярнасьць“, ППС зажадала—запраўднай барацьбы з дарагоўляй, дык і — забароны вывазу спажыўчых прадуктаў з краю, дапамогі безработным і значнай рэдукцыі (зьмяншэньня) ваеннага бюджэту Польшчы—шляхам скарочаньня сроку службы ў войску.

Гэты „ўльтыматум“ (хай Бог крые — ня так ужо страшна!) выклікаў перапалох у габінэце. Зараз жа ўмяшаўся ў гарачую справу „сват“ Ратай, зрабіў, не адкладаючы справы, у сябе на кватэры „гарбатку“ для ўсіх паноў „коаліцыйных“ і—мігам пагадзіў пасварыўшыхся. „Нашы товажышы“ пакуль-што схавалі свой „ультыматум“ да кішані, і ўсё пакуль-што асталося пастарому.

### „Коаліцыя“ працуе.

Дарагоўля хлеба і іншых прадуктаў выклікана, як ведама, тым анархічным вывазам заграніцу, якога пасьля ўпадку Грабскага, фактычна дабіліся захапіўшыя „рэй“ у ўрадзе Скшыньскага капіталісты места і вёскі. Як сьцьвярджае „Robotnik“, існаваўшая дагэтуль „вывазная камісія“,—рэгуляваўшая вываз з краю, папросту „ўзарвана“... пястоўцамі, якія заявілі, што яны—проці ўсялякіх абмежаваньняў вывазу прадуктаў.

Як ведама, тая-ж гісторыя акурат мела месца і ў леташнім годзе. І тады абшарнікі і кулакі адразу вывезьлі амаль ня ўвесь ураджай, зарабіўшы падвойна: бо і на вывезеным збожы і на падняўшыхся цэнах астаўшагася хлеба. А пасьля — ужо з самай вясны — прышлося Польскаму Банку выдаваць па 50 — 100 мільёнаў злотых у месяц з сваіх валютных запасаў на тое, каб прывозіць з Амэрыкі муку, дый яшчэ першага гатунку—пшанічную, што абыйшлося краю амаль ня ў 5 разоў даражэй, а ўканцы зруйнавала і польскую валюту.

І вось,—тая-ж анархія, толькі шмат горшая, пачынаецца ізноў. А пэпээсы з сваімі міністрамі толькі... пішуць апазыцыйна ў сваей газэце.

### Бюджэт на сьнежань.

Бюджэт на сьнежань гэтага году ўсталены ў суме 149,8 мільёнаў злотых.

Цікава, што на гэтую суму адных толькі выдаткаў на Корпус Пагранічнай Варты на нашых „крэсах“ будзе 6 мільёнаў 700 тысяч злотых, ці—каля 5 проц.

5 проц. дзяржаўнага бюджэту (дваццатая частка!)—на адну толькі спэцыяльную ваенную ахову кардоннай лініі, усталенай Рыжскім Трактатам, ня лічучы іншага, глыбей разлякаванага войска, ну, зразумела, і—паліцыі...

Дорага-ж абходзіцца Польшчы падзел жывога цела Беларусі.

### Польскі скарб ня можа плаціць пэнсіі ўрадоўцам.

Рада міністраў разглядала справу, як заплаціць пэнсіі дзяржаўным урадоўцам. Стан скарбу не дае рашуча магчымасьці заплаціць усім урадоўцам па сучасным стаўкам. Дык трэба — або зьменшыць адпаведна пэнсіі ім, або—узнавіць інфляцыю (выпуск папяровых грошаў).

Спэцыяльная камісія дзеля ашчаднасьці пастанавіла трэбаваць зьняцьця з пэнсіяў усіх урадоўцаў 120 мільёнаў, а з бюджэту ваеннага міністэрства — 150 мільёнаў. Разглядзеўшы ўсе гэтыя лічбы, Рада Міністраў не зрабіла пакуль-што ніякай пастановы.

Характэрна, з выдаткаў на „асаднікаў“ ня зьнята нічагусенькі!..

### Ізноў расьце безработцьце.

Паводле афіцыяльных даных, апошні тыдзень лістападу ізноў прынёс яшчэ больш значнае павялічэнь-

# Беларусы! Пасьпяшайце падаць школьныя дэклярацыі да 31 сьнежня!

не лічбы безработных ў Польшчы, — бо аж на 10.629 асоб.

Лічба безработных узрасла ўжо да 250.000 асоб.

### Спадзяваны новы раскол у „Вызваленьні“.

Як пішуць газэты, з тэй мешаніны, якая завецца ў Сойме „Вызваленьнем“, ізноў мае выдзяліцца новая група. На гэты раз выдзяліцца „ніжэйшы“ слой—сялянскі: 18 паслоў — з п. Валеронам на чале. Яны выходзяць, каб злучыцца з групай п. Брыля.

Мы павінны сцьвярдзіць, што п. Брыль быў адзін з вельмі нячысьленых у Сойме паслоў, якія абурыліся (замест самых „пакрыўджаных“...) на тое, што прэм'ер Скшыньскі не запрасіў да тварэньня „коаліцыі“ — нацыянальных меншасьцяў. Але адзначым і тое, што калісьці пісала „Rzeczpospolita“ быццам п. Брыль—адзін з тых пястоўскіх паслоў, якія з баечнай хуткасьцю яшчэ ў Установчым Сойме зарабілі вялізарныя грошы на сваім пасольскім званьні!..

Бяда сялянства ў Польшчы, што няма ў яго запраўдных добрых правадыроў.

### Пастановы „Вызваленьня“.

Галоўная Управа „Вызваленьня“ на апошнім паседжаньньні прыняла рад пастановаў.

Перад усім было пастаноўлена „зрэалізаваць ідэю аб'яднаньня апазыцыйных польскіх сялянскіх групаў Сойму і ўвайсьці ў паразуменьне з групамі работніцкімі і—славянскіх меншасьцяў“.

У далейшых пастановах Вызваленьне дамагаецца:

1) Зламаньня моцы і апору правіцовых групаў, якіх падтрымлівае Пяст і Хадэцыя (а ППС?!);

2) Павялічэньня на... паўтара мільярда грашовага абароту ў краі, аднак-жа—бяз... інфляцыі (?!);

3) Вызначэньня паловы ўсіх скарбовых крэдытаў хлебаробам, а з гэтай паловы — прынамся трох чвертак—дробнаму сялянству;

4) Непадпісаньня Лёкарнскіх Трактатаў.

Нажаль толькі, вызваленцы не аткрылі сакрэту, як бяз інфляцыі і пазыкі павялічыць грашовы абарот у Польшчы і—як зьняць подпіс Польшчы з падпісаных ужо Трактатаў?!

## Заграніцай.

### Паседжаньні Рады Лігі Народаў.

7 сьнежня распачаліся паседжаньні Рады Лігі Народаў.

Першай справай разглядалася — па дакладу Чэмбэрлена — справа аружнага нападу Грэцыі на Баўгарыю. Баўгарыя згадзілася на рашэньне Рады, а Грэцыя заявіла пратэст, заявіўшы, што адмаўляецца плаціць фтраф і адшкадаваньні Баўгарыі і падае „апэляцыю“ ў Гаагскі Трыбунал.

Вельмі важнай зьяўляецца пастанова сьледчай камісіі Лігі, якая сцьвярдзіла, што нарушыўшым Статут Лігі (напасьнікам) зьяўляецца той, хто першы пагвалціў чужую дзяржаўную тэрыторыю, перайшоўшы граніцу,—не зважаючы на ўсё тое, што адбылося перад тым... Дык віна за напад выключна падае на Грэцыю.

### Справа разбраеньня на Радзе Лігі Народаў.

Як ведама, адной з галоўных справаў, якімі мае заняцца бягучая сэсія Рады Лігі, зьяўляецца праект агульнага разбраеньня. Якую вагу прыдаюць гэтай справе кіраўнікі Лігі (англійцы і французы), відаць з таго, што Рада запрасіла да разважаньня гэтай справы ня толькі Амэрыку, але і—СССР. Праз доўгі час асобны камітэт падрыхтоўваў праект гэтага разбраеньня, які, праўду кажучы, перад усім меў на мэце здаволіць інтарэсы Англіі і Францыі. Але, нажаль, якраз гэтыя інтарэсы, як заўсёды, аказаліся супярэчнымі... Дык і пайшлі спрэчкі без канца! Дэлегаты Бэльгіі п. Гюманс і Чэхіі — п. Бэнэш узяліся апрацаваць „кампрамісны“ праект, які-б паміраў інтарэсы Англіі і Францыі.

Калі да гэтага дойдзе, тады Рада „аднагалосна“ ўложыць праграму прышлай агульнай міжнародавай канфэрэнцыі ў справе разбраеньня і скліча апошнюю.

### Справа Мосулю на Радзе Лігі.

Найцікавейшым было паседжаньне Рады, калі ўзгарэўся спор паміж турэцкім і англійскімі дэлегатамі ў справе Мосулю. Турэцкі дэлегат пабіў англійскіх — з самім Чэмбэрленам на чале! — па ўсёй лініі, разьбіўшы ўсю іхнюю „праўную“ аргумэнтацыю (доказы). Урэшце ён заявіў, што, ня гледзячы на „тлумачэньні“ Гаагскага Трыбуналу, ён ад імя Турцыі не прызнае некарыснага для яе рашэньня Рады Лігі, — бо на гэта яго дэлегацыя ня мае паўнамоцтваў. Прышлося Радзе рабіць перарывы, але „Турцыя“ стаяла на сваім. Кажуць, што справа... будзе адложана да наступнага Агульнага Сабраньня... Дзіва што спакойнае і рэчавое красамоўства так імпанавала паном радным Лігі: на граніцы Мосулю стаіць 150-тысячная армія, гатовая што хвіліну заняць міма Лігі і Гаагі спорны віляйет (округ Мосуль).

### Вельмі сымвалічная прапазіцыя.

У той час, калі ў Польшчы прэм'ер новага „коаліцыйнага“ ўраду, творачы габінэт, зусім ігнаруе істнаваньне ў дзяржаве цэлай траціны няпольскага насяленьня, якое займае палову дзяржаўнай тэрыторыі Польшчы, — у той самы час у Латвіі прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў у Сойме прэзыдэнтам Рэспублікі заклікаюцца да... стварэньня ўраду!

Мы маем спыніцца даўжэй на гэтым вельмі цікавым і сымвалічным факце ў жыцьці новапаўстаўшых нацыянальных дзяржаваў, якія, маючы ў сваім складзе вялікія часткі меншасьцяў, маніліся весьці чыста нацыяналістычную палітыку... І вось прыклад Латвіі, якая ніяк ня можа ўтварыць габінэту з прадстаўнікоў „дзяржаўнай нацыянальнасьці“, ды ўрэшце расьпісалася ў сваім бяссільлі і запрапанавала ўладу—блёку сваіх меншасьцяў,—гэты прыклад зьяўляецца вельмі паказальным. Хвароба „палітычнай будовы“ Польшчы робіцца значна больш зразумелай на гэтым прыкладзе Латвіі.

Правадыр блёку меншасьцяў у Латвіі, доктар Шыман, адмовіўся ад прапазіцыі прэзыдэнта. І слушна: бо-ж гэта пярэчыць прынцыпу дэмакратыі...

### Ваенная ўмова між Польшчай і Малай Антантай.

На канфэрэнцыі дэлегатаў Польшчы і Малай Антанты ў Букарэшце падпісана ваенная канвэнцыя.

Канвэнцыя перад усім рэгулюе дастаўку аружжа і іншых ваенных матэрыялаў. Але, як пішуць румынскія газэты, на канфэрэнцыі прыняты і больш важныя пастановы — датычна ваеннага супрацоўніцтва ўсіх паразумеўшыхся дзяржаваў у часе вайны... Што гэта піша румынская прэса, якая мае ахвоту страшыць таго, каго сама баіцца, як агня, — гэта рэч зусім зразумелая. Але — ці праўду піша яна, гэта—зусім іншая рэч...

### Сэнсацыйныя чуткі аб падзеле Аўстрыі.

Аўстрыйская прэса падае сэнсацыйныя весткі аб быццам ужо апрацаванай, амаль не падпісанай умове паміж Італіяй, Югаславіяй і... Вэнгрыяй — у справе падзелу Аўстрыі, якой быццам „пагражае“ злучэньне з Нямеччынай, чаго яна-ж сама жадае! Як толькі ў Нямеччыне наступіць манархічны пераварот, дык зараз-жа Аўстрыя мае быць занята немцамі. Дык вось вышэйназваныя дзяржавы быццам і згаварыліся зараз-жа пасьля абвешчаньня манархіі ў Нямеччыне аружна заняць загадзя падзеленыя між імі часткі Аўстрыі... За гэтую дапамогу Мусоліні і Пашыч абяцалі Вэнгерскім абшарнікам дапамагчы пасадзіць на карк народу—караля Рупрэхта—з „сваей уласнай вэнгерскай дынастыі“. Каб прыцягнуць да справы і Нямеччыну, і ёй маюць запрапанаваць значную частку нямецкага Тыролю...

Трэба думаць, што пакуль-што плян гэты — даволі фантастычны... Перад усім—забыліся спытацца ў самой Аўстрыі, якая, трэба-ж думаць, таксама мае голас у гэтай справе.

### Міністэрскі крызіс у Нямеччыне.

Клюбы Рэйхстагу ніяк ня могуць дагаварыцца аб стварэньні якой-небудзь урадавай коаліцыі.

Першая думка прэзыдэнта Гіндэнбурга аб стварэньні „вялікай коаліцыі—ад нацыяналістаў („эндэкаў“) да сацыял-дэмакратаў („пэпэсаўцаў“) правалілася адразу: нямецкія „пэпэсы“ аказаліся шмат „выбрэднейшымі“, як польскія.

Тады той-жа Гіндэнбург высунуў думку аб утварэньні менш „вялікай“ коаліцыі—лявіцы і цэнтру, без нацыяналістаў. Вось, аб гэтым і ідуць цяпер нарады ў парляманцкіх кругах.

Сацыял-дэмакраты штосьці ня вельмі ахвотна адносяцца і да гэтай коаліцыі, жадаючы ня столькі дайсьці да ўлады, скольки—не дапусьціць да яе нацыяналістаў.

Ізноў—ня тое, што польскія дамовай гадоўлі пэпээсы, якія ня толькі рваліся да ўлады, але і першыя заключылі пісаную ўмову перш-на-перш з эндэкамі—аб сумесным уваходзе ў габінэт.

### Установчы Сойм у Пэрсіі.

7 сьнежня адбылося ўрачыстае першае паседжаньне пэрсідзкага Установчага Сойму, які мае апрацаваць дзяржаўную канстытуцыю Пэрсіі, а значыць і вырашыць аканчальна пытаньне, ці апошняя мае быць манархіяй, ці рэспублікай.

Ведама-ж, што ў апошнім пытаньні правы Сойму будуць толькі ўяўныя: ён проста мусіць прызнаць створаны фактычным дыктатарам Пэрсіі Рыза-ханам факт абвяшчэньня сябе — пэрсідзкім шахам.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Валадаючы яшчэ Мукдэнам Чан-Тсо-Лін сьпешна, пры дапамозе японцаў, рэарганізуе рэшткі сваей арміі, якіх асталося каля 70.000. На рацэ Ляо мае адбыцца рашучы бой між ім і яго збунтаваным генаралам, павадыром рэвалюцыйных войск, Куо-Сунгам. А пакуль што Чан-Тсо-Лін загадаў забіць усіх крэўных генарала Куо ў Мукдэне!

## Грамадзяне беларусы!

Вашы дзеці або зусім застаюцца бяз школы, або змушаны хадзіць у польскую школу, дзе навучаньне вядзецца ня ў роднай мове. На Вашы-ж стараньні ў весну бягучага году праз складаньне Інспэктарам дэклярацыяў аб жаданьні беларускай школы школьная ўлада або яшчэ нічога не адказала Вам, або паведаміла, што дэклярацыі забракаваны і дзеля гэтага і надалей застаецца польская школа.

Ад Вас залежыць усёж-такі дабіцца сваей роднай школы для Вашых дзяцей, ня гледзячы на розныя перашкоды.

На падставе закону аб школьніцтве ад 31/VII 1924 г. і распараджэньня міністра асьветы ад 7/І. 1925 г. бацькі і праўныя апякуны маюць права што-год складаць дэклярацыі аб жаданьні беларускай школы да 31 сьнежня (декабря), каб беларуская школа адчынілася з восені кожнага году.

Парадак зацьверджаньня і складаньня дэклярацыяў той самы, што быў увосені: трэба каб дэклярацыі былі заверany войтам і праз паўнамоцніка зданы школьнаму інспэктару да 31 сьнежня (декабря) гэтага году.

Кожны бацька, матка або апякун, якія маюць дзяцей школьнага ўзросту, гэта значыць ад 7 да 14 гадоў, павінны падаць дэклярацыі аб жаданьні беларускай школы, не зважаючы на тое, ходзяць іх дзеці ў польскую школу ці не.

Паўнамоцнікі павінны перш-наперш здаць дэклярацыі інспэктару па сьпіску пад паквітаваньне і прыслаць копію сьпіска ў Цэнтр. Школьную Раду.

Дэклярацыі маюць права складаць і тыя жыхары, якія ўжо складалі ўвесну, і якім школьная ўлада ўжо адмовіла ў беларускай школе.

Складайце як можна больш дэклярацыяў!

Карыстайце тэрмін да 31 сьнежня!

Дэклярацыі, паўнамоцніцтва і інструкцыі можна выпісваць:

1) з Беларускай Школьнай Рады — Wilno, Wileńska 12.

2) з Навагрудзкага Т-ва Беларускай Школы— Nowagródek, Korelicka 23.

3) з Радашкаўскага Т-ва Беларускай Школы— m. Radoszkowicze.

**Ц. Б. Ш. Р.**

Вільня, 10. XII. 1925 г.

## ХРОНІКА.

**Ізноў арышт вучня!** У ноч з 7 на 8 сьнежня віленская палітычная паліцыя заарыштавала вучня 7 клясы Віленскае Беларускае Гімназіі, Саковіча.

Саковіча, ведама-ж, вінавацяць, як і ўсіх беларусаў, у стаўшымся цяпер модным камунізьме.

З часам, як відаць, зьмяняюцца густы і ў палітычнай паліцыі: яшчэ так нядаўна панавала мода на „незалежнікаў“ і „ўрад Ластоўскага“ (хаця-ж у апошнім ужо два гады Ластоўскага ня было!),—а вось цяпер—што ні арышт сьвядомага беларуса, дык ужо няўхільна і абвіненьне ў камунізьме!

**Суд над беларусамі.** 18 лістапада с. г. выязная сэсія Віленскага акружнага суда ў Глыбокім разглядала справу Антона Войцелёнка і Янкі Журні, абвінавачаных з арт. 108 к. к.

Абвінавачаных суд апраўдаў.

Абвінавачаныя прасядзелі ў астрозе **па два гады з гакам.**

Характэрна, што ў пачатку с. г. абвінавачаны, Янка Журня, пытаўся ў сьледчых уладаў, што з яго справой і прасіў прысьпешыць справу, на што атрымаў больш-менш гэткі адказ: „Pańska sprawa posuwa się w należnym kierunku“.

**Вярнуўся на старую службу!** Нешта Паўлюкевічу самому не ўдаецца склікаць абвешчаны польскай прэсай „беларускі“ зьезд, на якім — па загаду „начальства“ маюць быць прыняты „ляяльныя“ рэзалюцыі і... запісаны дзеля ведама палітычнае паліцыі імёны тых наіўных, якія на падобным „зьезьдзе“ адважыліся-бы ў чым-небудзь запярэчыць „начальству“. Дык вось Паўлюкевіч наняў сабе на службу ізноў уцёкшага ўжо раз з гэтае кумпаніі журналіста Макара Косьцевіча, які, як відаць з заметкі ў газэце „Słowo“, узяў на сябе „падрад“ склікаць такі гэны „зьезд“.— Думаем аднак, што і імя Косьцевіча ня менш ужо ведама народу, чым імя „самога“ Паўлюкевіча,—і наіўных ня знойдзецца!

**Загад міністэрства скарбу.** Міністэрства скарбу разаслала ў Скарбовыя Палаты загад — як найэнэргічней спаганяць падаткі, а перад усім залегласьці (недаімкі), скіроўваючы рашучыя прымусовыя меры перад усім проці „зласьлівых“—падатнікаў, ухіляючыхся ад заплаты падаткаў... Распачнецца ізноў вакханалія эгзэкуцыяў... Ведама-ж—чым бяднейшы падатнік, тым ён акажацца для пана сэквэстратара больш „зласьлівым“.

**Кватэрны падатак.** Толькі што п. міністар унутраных спраў разаслаў цыркуляр мястовым самаўрадам, каб яны значна зьменшылі вялізарны падатак на кватэры, бо за гэтыя-ж кватэры дзяржаўны скарб бярэ цяпер яшчэ больш, як месты.

Можа, нашыя „бацькі Банькоўскія“ некалькі грошыкаў паскідаюць...

**Самагубствы ў Вільні.** За лістапад у м. Вільні зарэгістравана 76 выпадкаў замахаў на ўласнае жыцьцё... Каля паловы выпадкаў самагубства прычынай мелі матэрыяльнае палажэньне. Больш чверці скончыліся сьмерцяй.



## З жыцьця Горадні.

✕ **Сьмерць палітычнага вязьня.** 15./X. 1925 г. у Горадзенскім вастрозе памёр палітычны вязень **Аляксандар Гораш,** засуджаны на **Беластоцкім працэсе „45“** на 3 гады вастрогу. Прасядзеў ён ужо 2 гады.

Здароўе яго падламалі сырыя муры.

Палітычныя вязьні памянулі свайго таварыша, прапяяўшы народныя гімны. **Нёман.**

✕ **Палітычныя працэсы.** 15 га сьнежня 1925 г. будзе разглядацца палітычная справа ў Горадзенскім Акружным Судзе. Абвінавачаныя: Ціхан Кулініч і інш. ў ліку 10 чалавек з арт. 102 часьць І К. К.

28-га сьнежня 1925 г. там жа будзе разглядацца палітычная справа абвінавачаных: Вольгі Шыпіцы і інш. з арт. 129 часьць І. К. К.

28-га сьнежня 1925 г. у тым-жа судзе будзе разглядацца палітычная справа абвінавачаных: Якуба Лямпэрта і інш. з арт. 102 часьць І. К. К.

✕ **Агульны сход Беларуск. Дабрачыннага Т-ва.** 6-га сьнежня адбыўся агульны сход Беларускага Дабрачыннага Т-ва ў Горадні. На парадку дня былі давыбары Камітэту Т-ва і Рэвізыйнай Камісіі.

У камітэце з старага складу яго асталіся толькі тры чалавекі: Лукашык, Аршун і Касьцельскі, а на месца выбыўшых сябраў камітэту былі выбраны сходам: Бэдыс, Рачкоўскі, Кайко і Прусак.

У рэвізыйную камісію ўвайшлі: Абрамовіч, Белевіч Павал і Верамейчык.

Агульны сход даручыў рэвізыйнай камісіі зрабіць рэвізію Т-ва і прытулку і на наступным агульным сходзе, які павінен адбыцца паміж 23 і 31 студзенем 1926 г., зрабіць даклад.

Таксама сход пастанавіў зьвярнуцца да грамадзянства праз прэсу з просьбай аб ахвяры для дзяцей на ёлку на Каляды.

✕ **Забастоўка.** 1-га сьнежня ў 9 гадз. раніцы была спынена праца ў сернікавай фабрыцы ў Горадні. Забастоўка, як ведама, адбылася ўва ўсіх фабрыках сернічкаў у Польшчы з прычыны ня роўнага трактаваньня рабочых і прайшла салідарна.

✕ **З тытунёвае фабрыкі.** Як ведама ужо з нашых газэтаў, на тытунёвай фабрыцы ў Горадні адбылася рэдукцыя рабочых.

Цікава адно, што шмат зрэдукавалі тых, якія засталіся з сям'ёю бяз куска хлеба ў такі цяжкі час безрабоцьця, а пакінулі на фабрыцы тых жанчын, у якіх мужы маюць заробак, напрыклад: працуе Вэраніка Ежэўская, муж якой працуе на чыгунцы ў Горадні, і інш.

Дык вось табе і рэдукцыя, аднаму занадта, а другому нічога!..

## Карэспандэнцыі.

### „Беларуская мова“ ў польскіх школах на „Крэсах“.

(З Нясьвіжскага пав.)

Каб мець „апінію“ сярод заграничных дзеячаў асьветы ў справе аб беларускую мову, якой гэтак шчыра дабіваецца беларускі народ ад польскае ўлады, польскія культуртрэгеры загадалі сьвяшчэньнікам выкладаць рэлігію беларусам... парасейску! Айцы духоўныя за гэта ўзяліся шчыра (бо-ж за гэта атрымліваюць „падмогу“) і загадваюць, каб кожын вучань меў „Закон Божы“, які выдае сьвяшчэньнік за 2 злоты (вёска Лукі, Жухавіцкае гміны, Нясьвіжскага павету, сьвяшчэньнік з сяла Даўматаўшчыны). „Законы“ ў торбах цягаюць, а рускае буквы ня ведаюць ні аднае, але-ж за тое польскім настаўнікам ёсьць апраўданьне, што ў іх школах „są białoruskie czytanki“. А калі гэта сцьвярджае польскае настаўніцтва, дык улада тым больш!..

**Ю. Хмурны.**

### Абразок з нашага жыцьця.

(В. Бараўкі, Пастаўскае гм., Дунілавіцкага пав.).

Праяжджаю каля вёскі, чую нязвычайны плач і лямант. З цікавасьці астанаўліваю каня, сустракаюся з дзядком і пытаюся: „што за здарэньне ў вашай вёсцы“?

Доўга, доўга маўчаў дзядок, аж нарэшце, пачуўшы сваю родную мову, кажа:

„Павесіўся (30./X. с. г.) Зьмітрок Ермалай, дык вось, родныя і знаёмыя нябожчыка выпраўляюць яго на той сьвет“.

— Як, павесіўся?.. Чаму?—пытаюся я, ня веручы сваім вушам.

— „Эх, мой ты даражэнькі, відаць, што ня тутэйшы, бо ня ведаеш, што ўсім нам хутка трэ' будзе лезьці ў пятлю“. Тутака стары змахнуў сьлязу, махнуў рукой і далучыў: адным словам, ня бачым ратунку ніскуль, і спадзявацца не на што, хіба .....

— Але-ж, дзядулю, чаму-ж павесіўся Зьмітрок?— затрымоўваю я яго.

Тутака зноў стары змахнуў сьлязу, падумаў, памаўчаў, паглядзеў на мяне, на бакі і давай маляваць сумнымі абразкамі нягоды нябожчыка, зьдзекі абшарніка, які задумаў памсьціцца над нашым беларусам за „грахі“ расейскіх сялян. Не паскупіўся чорных фарбаў налажыць на суды, паліцыю, — на тое, што няма жыцьця ў нашым краю, а перад усім—беларусам.

Доўга я слухаў добра знаёмую „байку“, як усё роўна з 1001 ночы, і чакаў калі-ж мне скажа, чаму павесіўся Ермалай. Аж нарэшце, выліўшы сваю больку з сэрца да канца, як на споведзі, кажа:

— „Вось, аднаго дня паехаў Зьмітрок за дравамі. Сабраў гальля, дзякуючы якому няма праходу па нашых лясох, і вязе дамоў. Вязе, а нудныя, цяжкія думкі лезуць да галавы беднага мужыка, бо ведае ён добра, чым гэта пахне для яго, як даведаюцца служкі нашага абшарніка, што Зьмітрок „украў“ цэлы воз гальля, дый яшчэ і гнілога. Пацягнуць небараку ў суд, і — прашчай тады апошняя кароўка! Але, як усюды, так і тутака не шанцуе Зьмітраку, бо ўсьлед за няшчасным „прыляцелі“ два лясьнікі з стрэльбамі за плячамі, з бляхамі на лабох, крычучы: „паджджы, паджджы, а ў каго пытаўся браць, што не тваё, — сякі, такі ты“?!

Апусьціў няшчасны галаву, як апошні вінавайца, і стаў маліцца перад лясьнікамі, як перад яснавяльможнымі панамі, пакуль тыя не згадзіліся „ўлатвіць справу“ за дзьве бутэлькі па 45⁰.

„Хадзіў, шукаў Зьмітрок гарэлкі, але дарма, бо шынкары ў вёсцы пазвадзіліся, а без „зялёнага бога“ „яснавяльможныя паны“ ня толькі ня думаюць прабачыць яму, а яшчэ „парадзілі“ павесіцца.

„Памуцілася думка ў галаве гаротнага беларуса, жаль зрабілася яму дзетак, у якіх адбяруць апошнюю кароўку за правіннасьць іх бацькі, дрыжачымі рукамі ўзяў вожкі, перакінуў за бэльку ў хляве, надзеў пятлю на шыю і... памінай як звалі „злодзея“.

„Пакуль схапіліся, Зьмітрок ужо не баіцца ні падаткаў, ні абшарніка Пшэзьдзецкага, ні ягоных судоў“.

Я крануў каня, бо балей ня мог ні слухаць „баек“ старога, ні енкаў вёскі. Едучы дамоў, пастанавіў пазнаёміць з гэтым праўдзівым здарэньнем чытачоў нашае газэткі, пры чым абмежаваўся толькі фактамі, не далучаючы сюды сваей творчасьці, бо і так усё тутака падобна на байку, ці на сон.

А мо' і запраўды ўсё, што мы бачым у Заходняй Беларусі, ёсьць толькі кашмарны сон?!.

**Падарожны.**

### „Цуд над Дзьвіной“.

(З Дзісеншчыны).

Ня гэтак даўно чыталі мы ў „Ж. Б.“,—што будынак вастрогу ў Дзісьне стаіць пусты—як-бы кідаючы лёзунг усяму цяперашняму „цывілізаванаму“ сьвету. Праўда, дзіва ня малае. Ведаем і чыталі мы і пра „дзіва над Віслай“. Дык няхай-жа ведаюць людцы пра „дзіва над Дзьвіной“.

Ізноў вернемся да гэтага вастрогу. Ня гэтак вельмі даўна будынкам людскіх сьлёз і гора заапекавалася нарэшце і ўлада. У гэтым будынку пачаўся рамонт і ўсялякія перараробкі, а пасьля гэтага ён будзе аддадзены дзеля карыстаньня Дзісенскай (вядома-ж не беларускай) урадавай гімназіі. Каму дастаецца гэты гмах—хай яно. Няхай сабе і на польскую гімназію. Толькі здарылася дзіва, якое дае вельмі многа думаць. Памысьліш сабе чалавек: колькі такіх гмахаў па ўсім сьвеце, а разам і ў Польшчы, якія ужо перапоўнены людзьмі? І людзьмі больш засуджанымі не за зладзейства ці забойства, а за ідэйныя імкненьні! А гэтакіх вязьняў далёка больш, як зладзеяў і забойцаў. І калі-б за вольную думку і слова не садзілі за краты, дык сьмела палова вастрогаў сталася-б ня чорнай плямай сучаснае „цывілізацыі“, а ясным сонцам навукі, розуму і іншых добрых людзкіх рэчаў. Цэлыя мільёны грошаў маглі-б ісьці на паляпшэньне дабрабыту людзей, на зьмяншэньне безрабоцьця, на разьвіцьцё прамысловасьці, на добрыя школы, шпіталі і г. д.

„Цуд над Дзьвіной“ — гэта няхай будзе лёзунгам усім вастрогам!

Мо' і над Дзьвіной ня сталася-б гэтае дзіва. Ну, але-ж вядома: места на самай граніцы, над міжнароднай ракой, ды і перад суседам „варварам“ троху стыдна...

**Зязюля.**

## З Радавае Беларусі.

### Усебеларуская мастацкая выстаўка.

Праца па адчыненьню ў Менску Усебелар. мастацкай выстаўкі ідзе напружаным тэмпам. Працуе экспэртная камісія, якая вядзе прагляд і адбор паступіўшых экспанатаў. Наплыў апошніх нечакана, але прыемна, вялікі, што абяцуе выстаўку зрабіць цікавую і цэнную для пачатку сталае працы ў галіне вобразных мастацтваў. З Віцебску ад працаўнікоў і вучняў Мастацкага тэхнікуму прыбыло 12 скрынак экспанатаў (да 400 №№). Выставачны камітэт абмежаваны памяшканьнем, змушаны, відаць, будзе перанесьці аддзел старажытнага беларускага і жыдоўскага мастацтваў у другое памяшканьне, магчыма ў Дзяржаўны музэй. У сьлед за сканчэньнем працы экспэртнае камісіі распачнецца разьвеска і расстаноўка экспанатаў, складаньне і друкаваньне каталёгу. Выстаўка адчыніцца ў найбліжэйшыя дні.

### Беларускія песьні.

Інстытутам Беларускае Культуры распрацаваны і разгледжаны рад беларускіх народных песьняў, якія будуць адасланы ў украінскую народную капэллу „Думка“—дзеля выпаўненьня ў часе артыстычнае падарожы капэллы па СССР з мэтай папулярызацыі ўкраінскіх і беларускіх песьняў.

### Літэратурныя навіны.

У „Сав. Бел.“ друкуецца другая частка трылёгіі Якуба Коласа (Тараса Гушчы) пад назовам „У глыбі Палесься“. Гэта — працяг яго повесьці „У Палескай глушы“.

**Я. Колас** падрыхтаваў да друку зборнік твораў пад назвай „Казкі жыцьця“. У зборніку зьмешчана 21 алегорычнае апавяданьне на розныя прыгоды жыцьця.

— Дзярж. выд. набыло ад **Максіма Гарэцкага** зборнік апавяданьняў „Досьветкі“. Зборнік ужо аддадзен у друк і мае быць хутка выдрукаваны. Эпоха „Досьветкаў“—паншчына. Апавяданьні малююць яе праяўленьні: эканамічны ўціск, духоўную заняпаласьць і інш.

— Маладняковец **Зарэцкі** здаў ДВБ збор апавяданьняў „Пад сонцам“.. Зборнік ужо друкуецца.

— Праф. **Краскоўскі,** які нядаўна прыехаў з-заграніцы ў Сав. Беларусь, працуе над „Пачатковым курсам гісторыі Беларусі“. Праца мае быць скончана ў сакавіку 1926 г. і выйсьці з друку к пачатку вучэбнага году.

— **А. Александровіч** пераладжыла на бел. мову кніжку Яраслаўскага „Жыцьцё і праца Леніна“.

— Маладняковец **Якімовіч** рыхтуе да друку зборнік вершаў і піонэрскіх песень. У такім зборніку і наагул у піонэрскай літэратуры адчуваецца вялікая патрэба. Ім жа складзена для піонэраў брашура „Чыімі імёнамі мы называемся“.

— **М. Байкаў і М. Гарэцкі** здалі на другое выданьне ДВБ. „Расійска-Беларускі слоўнік“. Слоўнік мае каля 20.000 слоў. Паводле першага выданьня значна перароблен і папраўлен укладчыкам з друку выйдзе ў канцы сьнежня г. года.

Галоўпалітасьветы, з мэтай пусьціць сцэнізацыю аповесьці Сэйфулінай „Вірынэя“ для вясковае і клюбнае сцэны, даручыў пераклад драмы пісьменьніку **Я. Купале.**



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сыч**, Вільня, Нямецкая 22.